ГРОДНА
№12 (587),
12 чэрвеня 2022

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Сэрца Бога




*“Гэта сэрца, якое так любіла людзей, што нічога не шкадавала, ажно да поўнага вычарпання, каб аказаць ім любоў...” (з апошняга аб’яўлення св. Маргарыце Алакок).*

на старонцы 2

## Прызначэнне новых канонікаў




*Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч прызначыў пяць новых канонікаў катэдральнага капітула Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Казіміра.*

на старонцы 4

## “Завяршэнне” хросту



*Пра сакрамант канфірмацыі і выбар добрага імя.*

на старонцы 7

# ЦІ САПРАЎДЫ “НЯМА ДОБРЫХ БЕЛАРУСКІХ ТЛУМАЧЭННЯЎ БІБЛІІ”?

## РАЗБІРАЕМСЯ РАЗАМ З ПЕРАКЛАДЧЫКАМ



**Гісторыя і сучаснасць перакладаў Бібліі на беларускую мову сплецена з лёсам і рэчаіснасцю беларушчыны ўвогуле. Шмат было зроблена і робіцца, але разам з гэтым нямала працы засталося незаўважанай і неацэненай. Наколькі запатрабавана Слова пабеларуску сёння? Размаўляем на гэты конт з перакладчыкам Бібліі і евангельскім пастарам Антоніем Бокунам.**

на старонцы 3

# ПАГЛЫБЛЯЮЧЫ ВЕРУ, ФАРМІРУЮЧЫ РОЗУМ

*Вера і розум – як два крылы, на якіх дух чалавечы ўзносіцца да сузірання праўды.*

*Ян Павел ІІ. Энцыкліка Fides et ratio*



*Студэнты гродзенскага тэалагічнага каледжа з дырэктарам па навуковай працы а. Анджэем Шчупалам падчас адпачынку ў в. Новая Руда*

**“Век жыві – век вучыся”. Напрыклад, у каталіцкай навучальнай установе. Варта ведаць, што ў Беларусі дзейнічаюць два тэалагічныя каледжы ў Гродне і Мінску і катэхетычны каледж у Баранавічах.**

на старонцы 5

СЛОВА РЭДАКТАРА

## Дарагія Чытачы!

*З самага пачатку свайго жыцця мы пакліканы пазнаваць Бога. Пакліканне з'яўляецца ў чалавеку той прасторай, у якой ён павінен пастаянна расці і развівацца. Аднак многія зусім не памятаюць пра гэта ці проста не ведаюць, бо не адкрылі для сябе тую задачу, закладзеную ў людскую прыроду.*

*Сёння, у свеце вялікіх хуткасцей, празмернасці інфармацыі і прагрэсіруючай секулярызацыі, сучасны чалавек так часта ўнутрана згублены, не адкрывае многіх рэчаў, якія датычаць яго ўнутранага свету. Жыццё без Бога стала для многіх своеасаблівай мерай сучаснасці і прагрэсу. Таму вельмі лёгка страціць сэнс жыцця і мэту, якой з'яўляецца Бог і сустрэча чалавека з Езусам.*

*Кожны дзень мы маем так шмат магчымасцей, каб уступіць у дыялог з Богам. Звяртаючыся да Святога Пісання, якое павінна стаць самай важнай кнігай кожнага хрысціяніна, можам лепш пазнаць нашага Пана і Збаўцу. Чытаючы каталіцкую прэсу, пазнаём праўды нашай веры. А ўсе зацікаўленыя тэалогіяй маюць магчымасць вучыцца ў Тэалагічным каледжы св. Казіміра ў Гродне.*

*Няхай Найсвяцейшая Панна дапамагае нам слухаць Хрыста, усё больш пазнаваць Яго і верна ісці за Ім!*



ks. Jerzy Martinowicz

КАЛЯНДАР

**12 чэрвеня**

***Урачыстасць Найсвяцейшай Тройцы.***

*Урачыстасць Найсвяцейшай Тройцы, якая адзначаецца пасля нядзелі Спаслання Святога Духа, адсылае да старажытнай тэалогіі айцоў Касцёла, якія падкрэслівалі, што справа збаўлення паходзіць ад Айца і рэалізуецца праз Сына ў Святым Духу. Св. Руперт, абат з Отабойрэна, так тлумачыць, чаму ўрачыстасць была змешчана ў наступную нядзелю пасля Пяцідзесятніцы: "Бо неўзабаве пасля зыходжання Святога Духа праўда Хрыстова і хрост, наказаны Ім у імя Айца і Сына, і Святога Духа, сталі ўдзяляцца па ўсім свеце. Такім чынам, сённяшняя ўрачыстасць з'яўляецца найпрыгажэйшым завяршэннем цыклу збаўлення".*

**13 чэрвеня**

***Успамін св. Антонія Падуанскага, прэзбітэра і доктара Касцёла.***

*Антоній Падуанскі (Фернанду Марцінс дэ Буён) нарадзіўся ў Лісабоне ў канцы XII стагоддзя. У раннім узросце ён далучыўся да рэгулярных канонікаў св. Аўгусціна, дзе атрымаў святарскае пасвячэнне. Перайшоў да францысканцаў, каб прапаведаваць Евангелле ў Афрыцы, але быў скіраваны на працу ў Францыю і Італію. Як прапаведнік служыў з вялікай карысцю і навярнуў многіх адступнікаў ад веры, а ў сваім ордэне вучыў братоў тэалогіі. Памёр у Падуі 13 чэрвеня 1231 года.*

**16 чэрвеня**

***Урачыстасць Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста (Божае Цела).***

*Касцёл з самага пачатку абвяшчаў веру ў рэальную прысутнасць Хрыста ў Найсвяцейшым Сакраманце. Хрыстос устанавіў Найсвяцейшы Сакрамант падчас Апошняй Вячэры. Новы Катэхізіс Каталіцкага Касцёла кажа, што "Езус Хрыстус прысутнічае ў Эўхарыстыі выключным і непараўнальным чынам. Ён насамрэч прысутны праўдзіва, рэальна і субстанцыяльна: са сваім Целам і сваёй Крывёю, са сваёй Душой і Боскасцю [...] – увесь Хрыстос" (ККК 1374).*

**23 чэрвеня**

***Урачыстасць Нараджэння св. Яна Хрысціцеля.***

*Ян Хрысціцель – адзіны сярод святых Пана, які мае такую прывілею, што дзень яго нараджэння адзначаецца як урачыстасць. Ян Хрысціцель дзівіць сваёй святасцю, жыццём, поўным аскетызму і пакаяння, сілай характару і бескампраміснасцю. Ён быў першым святым, якога ўшаноўвалі ва ўсім Касцёле. З'яўляецца абаронцам падчас граду і эпілепсіі.*

# СЭРЦА БОГА

працяг са с. 1

**Кожны год у чэрвені мы святкуем урачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Езуса, якая паказвае і набліжае нам велізарную любоў Бога да людзей. Гэтая любоў ахоплівае ўсіх, хто спадзяецца на Яго.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

Прабітае дзідай сэрца Езуса, з якога выцекла кроў і вада – дзве жыватворныя крыніцы Божай любові і дабрыні, – з'яўляецца праявай бязмежнасці гэтай любові. Сэрца Хрыста напоўнена спагадлівай і міласэрнай любоўю. Евангеллі поўныя прыкладаў добразычлівай любові Езуса да кожнага патрабуючага чалавека. Яго дабрыню зведалі не толькі тыя, хто еў цудам размножаны Ім хлеб ці вяртаў страчанае здароўе, але і тыя, хто – сацыяльна адлучаны, пагружаны ў грахі – зведаў людское асуджэнне і быў блізкі да адчаю. Яны чулі ад Хрыста поўныя падбадзёрвання і надзеі словы: "Вер, сыне, адпускаюцца табе грахі".

Сэрца Езуса было адчувальным да матэрыяльнай беднасці і бяды чалавека, але значна больш чуллівым яно было, калі сутыкалася з беднасцю маральнай – грахом. Яе імкнулася вылечыць любым магчымым спосабам, каб толькі чалавек, які пакутуе ад такой бяды, не супраціўляўся ласцы дабрыні Езуса.

**Урачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Езуса была ўстаноўлена ў Касцёле пасля аб'яўлення Хрыста св. Маргарыце Марыі Алакок у 1673–1675 гадах. У аб'яўленнях Хрыстос даручыў манахіні ўстанавіць свята ў гонар Яго Сэрца ў першую пятніцу пасля актавы Божага Цела.**



wikipedia.org

Гэтая велізарная любоў і дабрыня Сэрца Езуса, якую мы шмат разоў спазнавалі ў духоўным вымярэнні, патрабуюць адказу з нашага боку. І адзіным годным Бога адказам можа быць наша вялікая ўдзячнасць. Святы апостал Павел заклікаў вернікаў быць удзячнымі за дар веры і іншыя праявы Божай дабрыні. Яшчэ больш належыць дзякаваць за прабачэнне нам зла, якое ўчынілі ў сваім жыцці. Гэтае Божае прабачэнне з'яўляецца праявай любові дарэшты. Таму Езус чакае нашай узнагароджваючай любові.

Многія людзі сёння растоптваюць міласэрную любоў Бога. Ёсць шмат тых, хто стаіць асобна ад Яго, хто штодзённа сілкуецца грахом, не ўсведамляючы, што такое любоў Езуса. Таму з нашага боку ёсць вялікая патрэба ў кампенсацыі гэтых абраз і пагардаў адносна нашага Творцы.

**Сёлета ўрачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Езуса адзначаем 24 чэрвеня.**

Памятайма, што Бог хоча, каб нашы сэрцы былі падобнымі на Яго палаючае сэрца. І як вада прыносіць палёгку, няхай агонь любові зноў распальвае нас для Хрыста. А гледзячы на выяву Сэрца Езуса ці на фігуру, абуджайма ў сабе жаль за грахі і ўсклікайма: "Найсвяцейшае Сэрца Езуса, змілуйся над намі!".

# ЦІ САПРАЎДЫ НЯМА ДОБРЫХ БЕЛАРУСКІХ ТЛУМАЧЭННЯЎ БІБЛІІ?

## РАЗБІРАЕМСЯ РАЗАМ З ПЕРАКЛАДЧЫКАМ



*Антоні Бокун – пастар евангельскай царквы “Ян Прадвеснік”. У 2016 годзе пераклаў Новы Запавет і Прыпавесці на беларускую мову. Рэдактар перакладу Біблії кс. Уладзіслава Чарняўскага.*

працяг са с. 1

**Размаўляў Арцём Ткачук**

***– Існуе меркаванне, што няма добрых беларускіх перакладаў Біблії. Адкуль бярэцца такая пазіцыя?***

– Тут я бачу некалькі прычын. Галоўная – гэта агульны снабізм. Большасць людзей, якія так сцвярджаюць, ніякія пераклады не чыталі, альбо чыталі адзін ці два. Людзі проста кажуць, што добрага беларускага перакладу Біблії няма. Некаторыя ўвогуле лічаць, што добрых перакладаў Святога Пісання на любой мове няма ў прынцыпе.

Што тычыцца Новага Запавету, то беларускіх перакладаў шмат і большасць з даступных рэальна можна назваць добрымі. Пачынаючы ад перакладаў Лукаша Дзекуць-Малея і Антона Луцкевіча – да ўсіх тых, якія выйшлі ў апошнія гады. Усе беларускія пераклады Новага Запавету даволі дакладна перадаюць той сэнс, які ёсць у Пісанні. Прачытаўшы іх, чалавек адэкватна зразумее тое, што напісана ў арыгінальным тэксце.

Калі казаць пра Стары Запавет, то ў нечым з такой пазіцыяй *(што няма добрых перакладаў – заўв. аўт.)* я магу пагадзіцца, бо кожны з наяўных перакладаў мае свае нюансы. Аднак прапаведнік для таго і ёсць, каб іх растлумачыць і звярнуць увагу. Напрыклад, магу сказаць, што пераклад Янкі Станкевіча кепскі, бо ён зроблены на вельмі своеасаблівым варыянце беларускай мовы. У перакладах Сёмухі і Чарняўскага ёсць пэўная колькасць апісак, недакладнасцей, але яны звязаны не столькі з працай перакладчыка, колькі з працай рэдактара.

***– У адным з інтэрв’ю Вы ўзгадвалі тэзіс: “Які ні ўзяць цяпер наяўны пераклад Новага Запавету – ён добры”. Можаце прывесці некалькі аргументаў на яго карысць?***

– Паўтаруся, што сучасныя беларускія пераклады Новага Запавету даволі дакладна перадаюць яго сэнс, а мова, якую яны выкарыстоўваюць, зразумелая і з філалагічнага, і з біблістычнага пунктаў гледжання. Нават калі ёсць розначытанні, у большасці выпадкаў яны апраўданыя. Не буду сцвярджаць, што яны цалкам беспамылковыя. Могуць быць нюансы, што нейкае слова ці абарот не зусім дакладна падабраныя, але ў прынцыпе гэта неістотна.

***– Я правільна разумею, што калі сур’ёзна займацца Бібліяй, то абсалютна любы пераклад недастатковы. Трэба браць арыгінал і з ім працаваць.***

– Калі ўжо так, то і тады ўзнікне пытанне: “А які арыгінал браць?”. Таму што тут таксама не ўсё проста і адназначна. Што датычыць перакладаў, дык любы з іх перадае адзін нюанс і можа не перадаць іншы. Таму ёсць такая рэч як хрысціянская Традыцыя, якая адсякае мноства суб’ектыўных інтэрпрэтацый, што ўзнікаюць у некаторых людзей, калі яны пачынаюць рабіць далёка ідучыя высновы ў тых ці іншых даследаваннях. Тэксты Пісання вывучаліся на працягу апошніх двух тысяч гадоў, таму большасць ерасей ужо вядомая, і пытанні розначытанняў, незразуменняў таксама вядомыя.

Сказаць, што можна стварыць дасканалы пераклад, які цалкам будзе ўсё перадаваць, нельга. Любы з іх некаторыя рэчы робіць больш зразумелымі, а некаторыя зацямняе. Таксама трэба разумець, што ў Бібліі ёсць цьмяныя, незразумелыя месцы. І любы іх пераклад ужо з’яўляецца інтэрпрэтацыяй перакладчыка. Людзі, якія валодаюць біблейскімі мовамі, не могуць адназначна інтэрпрэтаваць ці перакласці нейкія моманты. Але асноўныя месцы ў Пісанні зразумелыя кожнаму чалавеку, які іх чытае. Як сказаў Скарына ў прадмове да Біблії: “Біблія – як дзівосная рака, і такая мелкая, што ягня перайсці яе можа, і такая глыбокая, што слон пераплываць яе мусіць!”.

***– Вельмі часта бачыш беларускамоўных прапаведнікаў, якія карыстаюцца Пісаннямі на рускай мове. Яны цытуюць Біблію па-руску, а прамаўляюць па-беларуску. Чаму так?***

– У Сярэднявеччы існавала г. зв. трохмоўная ерась, нібыта ёсць толькі тры мовы, на якіх можна праслаўляць Бога – старажытнагабрэйская, старажытнагрэчаская і лацінская. Хоць на працягу стагоддзяў гэтую пазіцыю неаднаразова змянялі, аднак усё роўна тэксты на некаторых мовах успрымаюцца як святыя.

***– Таксама ў адным з інтэрв’ю Вы ўзгадвалі іншую праблему: “Трагедыя ў тым, што людзям даводзіцца яе*** *(беларускамоўную Біблію – заўв. аўт.)* ***шукаць”. Сапраўды, Біблію па-руску можна прыдбаць паўсюль. Беларускамоўную – трэба пашукаць. І добра пашукаць. Ці вырашыла б праблему колькаснае друкаванне Біблії па-беларуску?***

– Безумоўна. Калі б беларускамоўных Біблій былі паўсюль, то гэта б у значнай ступені вырашыла праблему. І так, дзякуй Богу, за апошнія пяць гадоў Біблію па-беларуску ўжо можна знайсці. Калі я ўзяўся перакладаць Новы Запавет *(2012 г. – заўв. аўт.)*, то сітуацыя ў прынцыпе была такая, што нават калі ты хацеў яе набыць, гэта было немагчыма. Не было ў наяўнасці ніякіх біблейскіх тэкстаў па-беларуску. На сёння, дзякуючы ў тым ліку 500-годдзю беларускай Біблії, калі выйшлі і праваслаўны, і каталіцкі, і мой пераклады, Новы Запавет знайсці можна. Поўную Біблію трэба пашукаць больш старанна, але можна знайсці і яе.

***– А ёсць лічба? Колькі трэба было б Біблій, каб змяніць сітуацыю? Мільён?***

– Мільён сур’ёзна б змяніў сітуацыю. Ну хаця б 500 тысяч.

***– І гэтая колькасць насыціць усе кіёскі і крамы?***

– Так. Хаця важна, каб Святое Пісанне стала не толькі ў кроквай даступнасці, але і каб яго, безумоўна, чыталі. Аднак у любым выпадку складана чытаць тое, чаго няма.

***– Гэта як сіняя дзіцячая Біблія ў 1990-ых. Тады, хіба што, тыраж вырашыў справу – усе да сёння ведаюць “сіненькую дзіцячую Біблію”.***

– Менавіта.

***– Можа, яшчэ само выданне мае значэнне? Папулярныя рускамоўныя Біблії прывабныя, у іх розныя вокладкі, закладкі, выдатная папера. Беларускія выданні, канешне, больш сціплыя. Ды і выбару асабліва няма. Можа, і сама якасць выданняў мела б уплыў на ўжывальнасць Біблій па-беларуску?***

– Усё-такі гэта другаснае пытанне. Вядома, адным людзям трэба большы шрыфт, іншым – кішэнная версія, трэція хацелі б ружовую Біблію, чорную ці на замочку. Але гэта сітуацыя, калі рынак насычаны.

***– Аднак эстэтыка мае ўплыў.***

– Канечне. Калі кніга надрукавана неахайна, без нармальнага дызайну, то гэта адназначна мінус, асабліва ў наш час. Для прыкладу, калі б Новы Запавет для дзяцей і моладзі, які выдаў Каталіцкі Касцёл, быў больш шырока прадстаўлены, а не так, што “недзе ён ёсць”, ён бы карыстаўся немалой папулярнасцю. Бо там калярова, прыгожа, цікава. Гэта мае сваё значэнне, хоць далёка не першаснае.

***– Яшчэ кажуць, што Біблія па-беларуску даступная ў інтэрнэце. Аднак мне падаецца, што тыя, хто сур’ёзна чытае – чытаюць на паперы. Ці не так?***

– Біблія на паперы і ў інтэрнэце – гэта розныя рэчы. Адно другому дапамагае, але не замяняе. Дарэчы, людзі, якія кажуць, што няма добрых беларускіх перакладаў, могуць паглядзець на адмысловых сайтах, дзе ёсць дзесяць беларускіх перакладаў, плюс дваццаць перакладаў на іншыя мовы, плюс арыгінальныя тэксты; і параўнаць, і ацаніць *(смяецца – заўв. аўт.)*.

***– Можа, Вам бачацца яшчэ нейкія шляхі па выйсцю з сітуацыі слабой ужывальнасці беларускіх перакладаў Біблії?***

– Асноўнае пытанне тут да прапаведнікаў. Гэта іх поле дзейнасці. Як яны вучаць, так людзі і будуць навучаныя. Тут няма іншай прапановы і іншага шляху.

***– А ці ёсць сярод прычын з’явы, якую мы абмяркоўваем, адсутнасць міжканфесійнага перакладу, прымальнага ўсімі? Каб усе Цэрквы рэкамендавалі адзін нейкі варыянт, усе яго выдавалі вялікімі тыражамі?***

– Калі б такое было, гэта значыла б, што адбыліся грандыёзныя змены. Сёння, на жаль, усё ўпіраецца ў наяўнасць трох канфесійных дыялектаў. 95% тэксту супадае, але некаторыя спецыфічныя тэрміны, імёны, геаграфічныя назвы перадаюцца па-рознаму.

***– То-бок, толькі 5% тармозяць працэс?***

– Гэтыя 5% сведчаць пра больш глыбокія праблемы. Гэта сур’ёзныя рашэнні, якія павінны быць прынятыя на ўзроўні кіраўніцтва, асабліва Каталіцкай і Праваслаўнай Цэркваў. У іх ёсць дзве вельмі выразныя традыцыі, і па многіх пытаннях у гэтым плане існуюць розныя пазіцыі. Пратэстанты да гэтага працэс ставяцца, тут няма жорсткай літургічнай традыцыі.

***– Калі б згаданы бар’ер быў пераадолены, думаеце, гэта б дало моцны імпульс для выкарыстання Біблії па-беларуску?***

– Калі б гэты бар’ер быў пераадолены, гэта б сведчыла ўвогуле пра новы этап зацікаўлення ўсіх. Само па сабе гэта было б знакам звышнатуральнага дзеяння Святога Духа.




Нацыянальная бібліятэка Беларусі

Біблія ў перакладзе Уладзіслава Чарняўскага

## АКТУАЛЬНА

**Ватыканскае радыё**

### У Папскім універсітэце размаўлялі пра барацьбу з курэннем

На форуме падкрэслівалася важнасць зніжэння шкоды, звязанай з курэннем тытуню, гучалі заклікі да больш шырокага падыходу да тытунёвай залежнасці, арыентаванага на чалавека. Семінар арганізавалі з нагоды штогадовага Сусветнага дня без тытуню, які адзначаецца пад эгідай СААЗ.

У лісце да арганізатараў і ўдзельнікаў семінара Папа напісаў: “Культура жыцця – гэта спадчына, якой хрысціяне павінны дзяліцца з усімі. Кожнае чалавечае жыццё – унікальнае і непаўторнае – мае неацэнную каштоўнасць. Гэта трэба абвяшчаць зноў і зноў, з адвагай слоў і ўчынкаў. Спадзяюся, што разважанні над гэтай канкрэтнай праблемай змогуць дапамагчы многім людзям усвядоміць, што фізічнае здароўе – гэта дар ад Бога, які даў нам Пан і пра які мы павінны клапаціцца з усёй адказнасцю”.

### Laudato si´: 7-ая гадавіна абвяшчэння энцыклікі Францішка

Сем гадоў таму папа Францішак падпісаў энцыкліку Laudato si´, якая сыграла важную ролю ў прыцягненні ўвагі да тэмы інтэгральнай экалогіі і клопату пра наш супольны дом.

Энцыкліка дала пачатак шматлікім канкрэтным экалагічным і сацыяльным праектам ва ўсім свеце, рэалізацыі якіх дапамагае ватыканская Платформа ініцыятыў Laudato si´, а таксама Тыдзень Laudato si´.

Энцыкліка атрымала шырокі водгук у навуковай супольнасці, сярод сусветных палітычных і грамадскіх лідараў, актывістаў экалагічных рухаў. Брытанскае выданне The Guardian назвала яе “самым уражваючым і, магчыма, найбольш амбіцыйным папскім дакументам апошніх 100 гадоў”.

### СДМ 2023: трынаццаць нябесных апекуноў форуму

Аргкамітэт Сусветных дзён моладзі ў Лісабоне абвясціў нябеснымі апекунамі форуму трынаццаць святых і благаслаўлёных, якія “паказалі, што Хрыстовае жыццё напаўняе і збаўляе моладзь кожнай эпохі”.

Пасля Найсвяцейшай Панны Марыі, якая будзе галоўнай апякункай, ідуць св. Ян Павел ІІ і св. Ян Боско.

Наступныя сем святых і благаслаўлёных асабліва чынам звязаны з Лісабонам: Вінцэнт з Сарагосы, св. Антоній Падуанскі, св. Барталамэў Фэрнандэш, св. Жуан дэ Брыту, бл. Жуана Партугальская, бл. Жуан Фэрнандэш і бл. Марыя Клара ад Дзіцятка Езуса.

Нябеснымі апекунамі форуму будуць таксама некалькі благаслаўлёных, жыццё якіх было кароткім, але прасякнутым Евангеллем: П’ер Джорджа Фрасаці, Марсэль Кало, К’яра Бадана і Карла Акуціс.

### Малітоўныя інтэнцыі на чэрвень

**паўсюдная**

Молімся ў намеры хрысціянскіх сем’яў ва ўсім свеце, каб дзякуючы канкрэтным жэстам яны перажывалі бескарыслівасць любові і святасць у штодзённым жыцці.

**дыяцэзіяльная**

Молімся аб новых пакліканнях да паслугі ў Касцёле на Гродзеншчыне.

# ПРЫЗНАЧЭННЕ НОВЫХ КАНОНІКАЎ



Канонікі актыўна ўдзельнічаюць у жыцці мясцовага Касцёла і ў фарміраванні яго аблічча

працяг са с. 1

Прэс-служба Гродзенскай дыяцэзіі

Пра гэта было абвешчана 23 мая падчас сустрэчы для святароў, манаскіх сясцёр і свецкіх катэхетаў Гродзенскай дыяцэзіі ў дыяцэзіяльным санктуарыі Маці Божай Каралевы нашых сем'яў у Тракелях (дэканат Радунь).

Сустрэча была нагодай падзякаваць Пану Богу за 31 год біскупскага служэння гродзенскага ардынарыя кс. біскупа Аляксандра Кашкевіча і за 2021–2022 катэхетычны год, які падышоў да завяршэння.

Новымі канонікамі сталі: ксёндз Віталій Вайцяхоўскі, рэктар Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне, ксёндз Юрый Бяганскі, кусташ дыяцэзіяльнага санктуарыя Маці Божай Каралевы нашых сем'яў у Тракелях (дэканат Радунь), ксёндз Юрый Марціновіч, прэс-сакратар Гродзенскай дыяцэзіі, ксёндз Андрэй Зноска, пробашч парафіі Божай Міласэрнасці ў Лідзе (дэканат Ліда), ксёндз Леон Ладыш, пробашч парафіі св. Ліна ў Пелясе (дэканат Радунь).

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**ГЕРМАНІЯ.** Цудатворны абраз Багародзіцы Развязвальніцы Вузлоў, які знаходзіцца ў касцёле св. Пятра ў нямецкім Аўгсбургу, атрымаў у падарунак ад папы Францішка карону. Святы Айцец вельмі цэніць вобраз Марыі, які ўпершыню сустрэў у 1980-ых гадах падчас візіту ў Аўгсбург. Ён прывёз копію іконы ў Аргентыну і як арцыбіскуп Буэнас-Айрэса папулярызаваў яе ў мясцовым Касцёле. Абраз Багародзіцы Развязвальніцы Вузлоў быў выкананы каля 1700 года ў стылі барока, верагодна, Ёганам Георгам Мельхіёрам Шмітнэрам. Маці Божая на ім развязвае вузлы белага пояса, які трымаюць два анёлы.

**ІТАЛІЯ.** Як заявіў новы старшыня італьянскага епіскапату, Касцёл у Італіі пойдзе сінадальным шляхам, які не скончыцца цяперашнім Сінодам. Звяртаючыся да італьянскіх біскупаў, кардынал Матэа Дзупі нагадаў пра сацыяльны кантэкст, у якім сёння знаходзіцца Італія. Ён згадаў пра наступствы пандэміі і вайны ва Украіне, заклікаючы не забывацца пра ахвяр войнаў у іншых рэгіёнах свету. Іерарх хоча, каб Касцёл у Італіі ішоў сінадальным шляхам, і ён не павінен скончыцца Сінодам, які зараз адбываецца ў Касцёле. Галоўнае ў сінадальнасці, як лічыць новы старшыня, – уменне слухаць. Касцёл павінен умець чуць і балючыя рэчы.

**ІНДЫЯ.** Каталікі ў Індыі вітаюць першага кардынала-даліта. Сярод прызначаных кардыналаў быў арцыбіскуп Хайдарабада, які паходзіць з далітаў, найніжэйшай касты ў Індыі. Прызначэнне кардыналам арцыбіскупа Энтані Пулі з'яўляецца прэцэдэнтам. "Гэта вялікая радасць для далітаў, іх пачулі", – сказаў а. Боска, езуіт, які працуе на карысць гэтай супольнасці. Прызначэнне арцыбіскупа Пулі адбылося пасля дзесяцігоддзяў пратэстаў каталіцкіх груп далітаў, якія патрабавалі доступу для людзей з іх асяроддзя да вышэйшых пасад у Касцёле. Пратэсты ўзмацніліся, калі ў сакавіку група каталікаў-далітаў у паўднёвым штаце Тамілнад выступіла супраць прызначэння Фрэнсіса Каласці арцыбіскупам архідыяцэзіі Пондычэры-Кадалор, паколькі ён не паходзіў з іх супольнасці. Таксама гучала патрабаванне стварыць у каталіцкім Касцёле абрад індыйскіх далітаў.

**АЎСТРЫЯ.** У зале Моцарта Венскага канцэртнага дома (Konzerthaus) чатыры святары з розных старон свету заспявалі на карысць будаўніцтва шпіталя ў Мазамбіку. У канцэрце пад назвай "Gott-sei-Dank" (Дзякуй Богу) выступілі: урадженец Індыі францысканец Мануэль Сандэш, а. Стэфан Эгву з Нігерыі, а. Джэром Амбарузі, які паходзіць з Румыніі, і філіпінец кс. Марсэла Сахульга. Музычнае кіраўніцтва ўзяў на сябе Эліяс Стэйскал з Папскай місіянерскай справы "missio".

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

## ЛІСТЫ ЧЫТАЧОЎ

# ВАРТА ДАВЯРАЦЬ, ВАРТА ЧАКАЦЬ, ВАРТА МАЛІЦЦА!

**Ананімнае сведчанне пасля перажытых рэкалекцый "Унутранае аздараўленне", якія праходзілі ў лютым бягучага года ў Навагрудку.**



Восем гадоў таму пасля пэўных падзей у мяне адкрыліся дзіцячыя раны, якіх дагэтуль ніякім чынам не адчувала. У асноўным траўмы былі нанесены мамай. Бацька кінуў сям'ю амаль адразу пасля майго нараджэння. За згаданы перыяд я перажыла шмат чаго: ад невыноснага ўнутранага болю, з-за якога хацелася біцца галавой аб сцяну, каб хоць неяк суцішыць яго, да дэпрэсіі і дакучлівых думак аб самагубстве. Гэта была сапраўдная барацьба за жыццё. Трымаліца дапамагала штодзённая св. Камунія, адарацыя, малітва, доўгі працэс прабачэння мамы. Усё гэта праходзіла сам на сам з Езусам – я нікому свой боль не адкрывала. Час ішоў, але штосьці працягвала няволіць мяне: я па-ранейшаму не прымала Божую любоў, сябе, жыццё, часта сумавала без прычыны, хоць, дзякуй Богу, адносіны з мамай сталі наладжвацца.

Апошнія 2 месяцы перад рэкалекцыямі я зламалася: перастала хадзіць у касцёл, пазбягала Бога... Разумела, што трэба вяртацца, але не было сіл. Думала, што калі пасля рэкалекцый нічога не зменіцца, то адважуся на псіхатэрапію.

На рэкалекцыі прыехала з адной мэтай: паспавядацца. Падчас падрыхтоўкі да сакраманту шмат наплакалася, таму сама споведзь прайшла спакойна. Пасля рэкалекцыяніст прапанаваў мне заступніцкую малітву. Святар паклаў мне на галаву руку, пасля чаго яна пачала "спаўзаць" на шчаку. Гэта быў пяшчотны і цёплы дотык, і я чамусьці зразумела, што гэта рука не святара. Спыталася ў Езуса: "Чыя гэта рука? Твая ці таты?". І сама здзівілася гэтаму пытанню, падумаўшы: "Пры чым тут тата?". Бацькі амаль ніколі не было ў маім жыцці, і мяне гэта зусім не турбавала. Тым больш, што мой бацька быў жорсткім чалавекам, і я была рада, што ён з намі не жыў. Затым пачула адказ: "Таты". І расчаравалася, бо, канешне, хацела, каб гэта быў Хрыстос. Малітва скончылася, і я, не ведаючы, што далей з гэтым рабіць, не надала "дыялогу" асаблівага значэння.

На наступны дзень рэкалекцый адна з удзельніц дзялілася сваім сведчаннем і ўзгадала разважанні с. Паўлы Бобэр MSF пра айца. І я нарэшце "адрэагавала" на гэтае слова. Упершыню нешта ўнутры ўзварухнулася, і я падумала, што, можа, гэта і ёсць тое, што мяне трымае, – бацька. Разбіраючыся з дзяцінствам, з мамай, я заўсёды думала: "Добра, што хоць з бацькам разбірацца не трэба. І без яго маіх ран хопіць на некалькі чалавек".

Толькі калі вярнулася дадому, да мяне раптам дайшло, што дэпрэсія, "рука айца" і рэакцыя на сведчанне ўдзельніцы ўзаемазвязаны. Што не перажыўшы асабіста любоў свайго таты, а толькі яго поўную адсутнасць, я не магу прыняць любоў Бога. Я была шакіравана тым, што гэтая думка ніколі не прыйшла мне ў галаву за гады змагання. Хоць сама неаднойчы казала іншым, што мы несвядома пераносім вобраз бацькоў на Бога...

Тым часам мазаіка працягвала складвацца. Я прыгадала, што раней Езус мне быццам бы казаў: "Я дам табе ўсё, толькі не Маё Сэрца. Прасі ўсё, што хочаш, толькі не Маёй любові". Так жа было і з бацькам. Ён дапамагаў маме матэрыяльна, ніколі не адмаўляў, але я як дзіця ніколі не бачыла ягонай любові. Мне нават і не хацелася яе.

Пасля рэкалекцый мае адносіны з Езусам сталі цалкам іншымі. Цяпер я ведаю, што Ён любіць мяне і што Ён пабач. Ён цярплівa, нягледзячы на ўсе мае бунты і здрады, вёў да гэтага дня. І аздаравіў так проста, у адно імгненне, без аніякай тэрапіі.

Раптам аднойчы проста пасярод штодзённых заняткаў, думаючы пра Бога, я ўпершыню свядома звярнулася да Яго "Ойча Нябесны". Мне гэта падалося занадта афіцыйным, і я прамовіла "Тата". Не ведаю, як апісаць гэтае пачуццё. Гэта было так па-сапраўднаму, па-роднаму. Я ведала, што звяртаюся да Таты і што Ён мяне чуе.

Усе гэтыя апошнія гады я шмат плакала і часта з-за таго, што Бог мяне ніколі не палюбіць. Нават вобраз Неба быў скажоны: нібы я ў белым адзенні сяджу ў куце і плачу, а Бог са сваімі дзецьмі радуецца і смяецца разам, далёка ад мяне. Цяпер жа я плачу ад усведамлення таго, што Ён любіць мяне...

Я зразумела, што дзякуючы гэтым ранам калісьці прыйшла да Бога. Нават калі не наступала аздараўленне, я спрабавала прымірыцца з гэтым, думаючы, што галоўнае я ўжо атрымала – знайшла Яго. Але Пан пажадаў агаліць гэтыя раны, каб ацаліць і вызваліць мяне, бо інакш немагчыма любіць па-сапраўднаму.

Гэта ўсё яшчэ вельмі дзіўна і нова для мяне, я ўсё яшчэ захапляюся Любоўю і спадзяюся, што ніколі не прызвычаюся да гэтага.

Бог і далей працягвае рабіць цуды ў маім жыцці. Я пачала зусім па-іншаму перажываць споведзь – замест самабічавання з'явілася радасць. Цяпер Міласэрнасць заўсёды перабольшвае пачуццё ўласнай нікчэмнасці. Я больш не адчуваю боязі перад будучыняй, перад смерцю... Я давяраю Айцу. І гэта праяўляецца ў канкрэтных учынках, бо цяпер у мяне ёсць Тата!

Варта давяраць, варта чакаць, варта маліцца. Бог робіць усё найлепшым чынам. І тады, калі трэба. Ён не спазняецца ніколі, бо любіць, а Любоў не спазняецца...

# ПАГЛЫБЛЯЮЧЫ ВЕРУ, ФАРМІРУЮЧЫ РОЗУМ

працяг са с. 1

Размаўляла Кацярына Паўлоўская

**Мы папрасілі сёлетніх выпускнікоў Гродзенскага тэалагічнага каледжа імя св. Казіміра распавесці пра час свайго навучання, пра плён, які яны для сябе вынясуць, а таксама спыталі, чаму даросламу чалавеку варта такім спосабам паглыбляць свае рэлігійныя веды.**





**Валерый і Наталля Вільнеўчыц**

*Жывуць у горадзе Ліда; Валерый працуе слесарам, Наталля – галоўным бухгалтарам; навучаюцца разам; аб каледжы Наталля пачула ад знаёмых падчас вяртання з рэкалекцый.*

**Валерый:** Пра тэалагічны каледж я даведаўся ад сваёй любімай жонкі, якая параіла мне пайсці і павысіць свае рэлігійныя веды пра Бога. Мой лад жыцця ў той час гаварыў аб неабходнасці гэта зрабіць. Каб наша сям'я стала мацнейшай, пазнанне Бога мы вырашылі паглыбляць разам.

У працэсе навучання стала зразумелым, што рэлігійныя пазнанні – гэта неабходная ўмова для таго, каб узмацняць сапраўдныя хрысціянскія адносіны ў сям'і і грамадстве. Для кожнага чалавека і ў любым узросце.

Навучанне ў каледжы – гэта насычаны размовамі і дыялогамі аб Божых ісцінах незабыўны час, які накіроўвае на шлях наследавання Хрысту і непазбежна змяняе сэрцы людзей!

**Наталля:** Пакаленне нашае і бацькоў не мае таго фундаменту, які атрымліваюць нашы дзеці падчас заняткаў па рэлігіі. А калі і мае, то гэтыя веды засталіся на ўзроўні 6-10-гадовых дзяцей.

Людзям уласцівая цяга да Бога, а гэтую цягу трэба падпітваць новымі ведамі. Трэба таксама быць гатовым да таго, што з чалавека, які валодае пэўнымі ведамі, і спросіцца больш.

Чатыры гады вучобы праляцелі вельмі хутка. Былі і ўзлёты, і расчараванні, былі спробы адысці з каледжа, але заўсёды побач знаходзіліся аднакурснікі. Яны ставілі мяне на месца, падбіраючы словы падтрымкі, а часам і штуршком прыводзілі ў пачуцці. Мы вучыліся адзін ад другога і стараліся пазбавіцца ад таго драннага, што набылі на працягу жыцця. Экзамены ж, як не дзіўна, асабліва аб'ядноўвалі ўсіх. Такое адзінства, перажыванне адзін за аднаго шмат каштуе. Гэтыя пачуцці застануцца на ўсё жыццё! Хачу сказаць дзякуй усім за тое, што яны ёсць!



**Гражына Падгайская**

*Жыве ў горадзе Ліда, працуе маркетолагам, пра каледж даведалася ад знаёмых.*

З лекцый па маральнай тэалогіі ўжо ведаем, што ў духоўным жыцці няма статычнага стану: альбо развіваешся, альбо дэградуеш. Таму, каб задаволіць прагу пазнання Бога, нельга спыняцца. Таксама, акрамя рэлігійнай адукацыі і "ежы для розуму", важна памятаць пра "ежу для душы" – малітву. У гэтым я пераканалася на асабістым досведзе.

Азіраючыся назад, разумею, што рашэнне пайсці вучыцца ў тэалагічны каледж было дадзеным Богам другім шансам, каб скончыць некалі распачатую вучобу ў мінскім каледжы: даверыцца, працаваць над сабой і атрымоўваць веды.

Для мяне, якая працуе дыстанцыйна, выкладчыкі і студэнты каледжа сталі свайго роду "другім домам" з высокай канцэнтрацыяй аднадумцаў на квадратны метр. Мне найбольш запомнілася атмасфера любові, добразычлівасці, радасці і ўважлівасці да кожнага. Гэта і дыскусіі на лекцыях, перапынках, падчас дарогі з Ліды ў Гродна і назад, рэкалекцыі, паездкі на пікнік у Новую Руду, экзамены. А яшчэ асэнсаванне, асабліва падчас экзаменаў, якія мы, дарослыя, усё ж такі дзеці.

З часам пачынаеш разумець вартасць праведзенага ў каледжы часу: змяняешся ты сам і асяроддзе, у якім жывеш. Лекцыі па маральнай тэалогіі і тэалогіі духоўнасці дапамаглі зрабіць грунтоўнае выпрабаванне сумлення, падрыхтавацца да генеральнай споведзі і пасля больш свядома перажываць гэты сакрамант. Дагматычная тэалогія стала сапраўдным выклікам і "трэнажорам" для працы з ганарыстасцю. Малітва зрабілася больш глыбокай і ў той жа час простай. Таксама змяніліся прыярытэты, з'явілася пачуццё большай унутранай свабоды і спакою, удзячнасці і радасці.

Усё гэта дзякуючы Богу, які ўсіх нас "запрасіў" і дапамог скончыць вучобу. Працяг будзе.

Таксама хочацца выказаць словы падзякі айцу Анджэю, выкладчыкам, студэнтам і ўсім, хто прысвяціў сябе, свой час, каб каледж існаваў, і праз каго Бог мог нас весці на працягу чатырох гадоў.



**Людміла Лапко**

*Жыве ў горадзе Ліда, індывідуальная прадпрымальніца, пра каледж даведалася ад кс. Юрыя Бяганскага.*

Працяг рэлігійнай адукацыі важны, таму што чалавек, які адкрывае сваё сэрца для Бога – гэта поспех. Яго веды могуць хаця б адной асобе дапамагчы адкрыцца на Бога, на веру, каб працягваць шлях апосталаў.

Я вырашыла навучацца ў каледжы, бо чула аб багаслоўскіх навуках, але мала што пра іх ведала і марыла памножыць свае пазнанні. У выніку набыла веды з розных галін: фундаментальнай і маральнай тэалогіі, дагматыкі, сакраманталогіі і іншых.

За перыяд навучання мне асабліва запомніліся педагогі і кіраўніцтва каледжа, якія імкнуліся данесці важнасць кожнай дысцыпліны. Чатыры гады навучання далі старт, каб не спыняцца, а працягваць самастойныя пазнанні.



**Людміла Войкель**

*Жыве ў горадзе Гродна, працуе настаўніцай, пра каледж даведалася з абвесткі ў касцёле.*

На мой погляд, рэлігійная адукацыя даросламу чалавеку неабходная, каб запоўніць прабелы ў гэтай вобласці, калі яны ёсць. У мае школьныя часы забаранялася наведваць касцёл, а тым больш заняткі па рэлігіі. У той жа час, нават калі ў дзяцінстве былі закладзены асновы веры, сталеючы, мы змяняемся, інакш пачынаем глядзець на некаторыя рэчы, і тут ужо неабходна зірнуць на сваю веру пад іншым вуглом, у новым святле, трэба паглыбіць яе.

Я пайшла вучыцца ў тэалагічны каледж, бо хацела больш даведацца аб Богу (кім Ён ёсць, які Ён), аб Традыцыі Касцёла, пазбавіцца ад памылковых поглядаў у пытаннях веры.

За перыяд навучання мяне найбольш здзівіла, што пры катастрафічнай загружанасці і імклівым тэмпе жыцця абставіны складваліся так, што ўсё і заўсёды аказвалася зробленым своечасова.

Лічу, што навучанне ў каледжы прынесла свой вялікі плён. Я ўбачыла, што вакол мяне вельмі шмат добрых, спагадлівых і прыстойных людзей, якіх я раней чамусьці не заўважала.

Зразумела, што жыць трэба з пачуццём пастаяннай прысутнасці Бога ва ўласным жыцці – кожны дзень, кожную хвіліну. Свае ж учынкі і рашэнні заўсёды разглядаць праз прызму таго, ці будуць яны даспадобы нашаму Айцу Нябеснаму.

Яшчэ я зразумела, што трэба заўсёды ўсім прабачаць крыўды і быць вельмі асцярожнай у меркаваннях наконт іншых людзей і іх учынкаў, бо мы не можам ведаць аб прычынах, якія падштурхоўваюць людзей да тых ці іншых дзеянняў.

Нарэшце, ад граматных і вопытных педагогаў нашага каледжа я атрымала шмат каштоўнай інфармацыі, значэнне якой нельга недаацэньваць не толькі ў аспекце асабістага ўзросту, але і ў паўсядзённым жыцці.

Я бязмерна ўдзячна Богу, які прывёў мяне ў тэалагічны каледж.

ДАПАМАГЧЫ ДОБРАЙ РАДАЙ



Кс. Павел Салабуда, псіхолаг

# ЦІКАЎНАСЦЬ: ДОБРА ГЭТА ЦІ ДРЭННА?

Думаю, што адназначнага адказу на гэтае пытанне мы не пачуем, бо колькі людзей, столькі і меркаванняў. Са свайго боку, я хацеў бы нагадаць, наколькі, усё ж, цікаўнасць можа дапамагчы нам у жыцці. Адзін вялікі мысліцель аднойчы сказаў: "Калі б не мая цікаўнасць, я б не быў тым, хто я ёсць. Я ёй многім абавязаны". Як паказваюць даследаванні, цікаўнасць дапамагае нам прыняць самыя важныя рашэнні, пераадолець страх, даведацца, што будзе далей. Гэта толькі некалькі пераваг цікаўнасці, але пра ўсё па чарзе.

З апошніх доследаў нейрабіёлагаў над нашым мозгам высвятляецца, што ў ім ёсць прастора, якая адказвае за з'яўленне цікаўнасці. Варта прыгадаць, што менавіта пазнавальная цікаўнасць прыводзіць да неардынарных адкрыццяў. У жыцці ўжо нават існуюць некаторыя правілы, звязаныя з цікаўнасцю: жанчына заўсёды цікаўная і ўсё роўна дабʼецца свайго, у сітуацыі з дзіцём цікаўнасць дапамагае ў развіцці. А калі паслухаць Альберта Эйнштэйна, то цікаўнасць важнейшая за веды, таму што яна ніколі не заканчваецца.

Шэраг даследаванняў паказвае, што задавальненне цікаўнасці вельмі важнае для псіхічнага здароўя. Кожны з нас павінен пастаянна развівацца. Дзякуючы цікаўнасці, якая, безумоўна, павінна быць здаровай, мы можам стаць творчымі, здольнымі ўспрымаць навакольны свет і яго развіццё, лепш разумець сябе і свае патрэбы. Многім з нас цікаўнасць можа дапамагчы стаць больш упэўненымі ў сабе, мець больш энергіі і пастаяннае жаданне дзейнічаць, часцей бачыць сэнс сваёй працы і мець вышэйшае пачуццё мэтанакіраванасці.

Цікаўнасць можна развіць. Чалавек не павінен абмяжоўваць магчымасці свайго развіцця, а ставячы перад сабой новыя задачы, ён заўсёды будзе імкнуцца цікавіцца жыццём і сваім захапленнем. У адным з часопісаў я знайшоў некалькі парад, як развіваць цікаўнасць. Вось яны:

*1. **Не думайце, што ўсё, што Вы ведаеце, бездакорна.***

*2. **Паспрабуйце, як дзіця: з цікаўнасцю і ўважлівасцю азірайцеся навокал. З дзіцячага ўзроўню лепш за ўсё быць цікаўным.***

*3. **Тое, чаму мы навучыліся аднойчы, не застанецца назаўжды.***

*4. **Пытайцеся, калі чагосьці не ведаеце.***

*5. **Спытайце іншых і спытайце сябе. Заўсёды можна параўнаць дзве крыніцы пошуку.***

*6. **Цікаўцеся светам, іншымі людзьмі і сабой.***

Таксама варта адзначыць, што цікаўнасць бывае як добрай, так і дрэннай, і трэба навучыцца адрозніваць два гэтых тыпы, бо наша жыццё поўнае рэчаў цікавых і не вельмі. Добрая цікаўнасць заўсёды служыць развіццю. Па прыкладзе дзіцяці задаючы сабе і іншым пытанне накшталт "чаму?", мы заўсёды будзем шукаць адказы. А дрэнная цікаўнасць, як, напрыклад, балбатня і да т. п., паводле папы Францішка, "заўсёды будзе спакусай, якая ніколі не пакіне".

Дык няхай наша цікаўнасць будзе здаровай і добрай. Заўсёды варта мысліць здарова.

ЭКАЛОГІЯ СУЖЭНСТВА



***Вераніка Рогач** – каталічка, шчаслівая жонка і маці траіх дзяцей, псіхолаг і сямейны кансультант. Разам з мужам распрацавала і вядзе курс па навучанні сімптатэрмальнаму метаду распазнавання плоднасці. Звярнуцца за інфармацыяй або кансультацыяй можна праз акаунт жанчыны ў Instagram **@veronikarogach** (сямейны псіхолаг).*

# ПРА СУЖЭНСКУЮ БЛІЗКАСЦЬ: БЕЗ ІЛЮЗІЙ, ТАК, ЯК ЁСЦЬ

Мужчына і жанчына, ствараючы сямʼю, жадаюць жыць шчасліва, даваряць адзін аднаму і любіць адзін аднаго. Здаецца, што гэтаму нічога не можа пашкодзіць. Яны вядуць шмат размоў, іх цягне адзін да аднаго, і гэта нармальна ды натуральна. Але праходзіць час і нешта змяняецца, муж і жонка ўжо не глядзяць адзін на аднаго, як на самых непаўторных і лепшых, узнікае халоднасць у адносінах. У папярэдніх артыкулах я крыху пісала пра гэта, звязваючы такі зыход падзей з выкарыстаннем кантрацэпцыі і з'яўленнем страху зачацця ў адносінах. І гэта адна з прычын. Але таксама бачу, што нават маладыя пары, якія рыхтуюцца да шлюбу, не разумеюць важнасці і сапраўднага сэнсу сферы сексуальнасці ў адносінах сужэнцаў. Адсутнасць дыялогу, затоеныя крыўды і простае няведанне прыводзяць сямʼю да праблем у гэтай сферы.

Не хачу сказаць, што гэта самая галоўная праблема, але яна вельмі важная. І сучасны свет, які накіраваны на спазнанне, на атрыманне вопыту, імкнецца вылучыць з чалавечай сексуальнасці толькі задавальненне. Але яго трэба перажываць у поўным кантэксце. Пара – гэта людзі абодвух палоў, тут няма нейкай ідэалогіі, гэта ўсяго толькі анатомія. Кантэкст сексуальнага задавальнення – гэта сустрэча мужчыны і жанчыны. Канкрэтней – злучэнне дзетародных органаў. Іх галоўнае прызначэнне – размнажэнне. Думаючыя асобы разумеюць, што так людзі размнажаюцца. І яны гатовыя (хоць неабавязкова гэта запланавана) прыняць дзіця, якое, магчыма, будзе зачата.

Давайце падумаем менавіта аб сексуальнай блізкасці. У такім акце сустракаюцца дзве рэальнасці. З аднаго боку, гэта яднанне мужчыны і жанчыны, а з другога – знак бацькоўства, бо гэта прыводзіць да нараджэння дзяцей. І ўзнікае праблема: адзінства, якое так прывабна не толькі фізічна, але і на ўзроўні адчуванняў, павінна быць таксама яднаннем на псіхічным і духоўным узроўні.

Што важнейшае? Тое адзінства ці магчымае бацькоўства, плоднасць? Што павінна дамінаваць? Я ўпэўнена, што ў гэты момант муж і жонка або выйграюць (у тым ліку ў плане радасці ў сексуальнай сферы), або прайграюць. Гэта залежыць ад выбару. Калі яны лічаць, што сексуальнае задавальненне важнейшае, то плоднасць становіцца праблемай. Яны будуць змагацца з ёю. Плоднасць будзе перашкодай для атрымання задавальнення. Людзі, якія выбіраюць гэты шлях, магчыма, неўсвядомлена, у доўгатэрміновай перспектыве абавязкова прайграюць. Бо адтуль няма добрага выйсця.

І наадварот, калі пара вырашае, што плоднасць усё ж важнейшая за ўласнае эгаістычнае сексуальнае задавальненне, што задавальненне трэба падпарадкаваць плоднасці, яна, рызыкуючы задавальненнем, выбірае шлях, на якім можна перажываць яшчэ большае задавальненне. Да таго ж не толькі фізічнае.

Далей трэба абраць, што важнейшае: жыццё твайго дзіцяці ці задавальненне? Калі выбіраеш першае, задавальненне трэба падпарадкаваць жыццю дзіцяці. І тады неабходна шукаць, як рэалізаваць гэты падыход. Такую магчымасць у прыватнасці даюць метады распазнавання плоднасці. Гэтыя метады дапамогуць зразумець, калі вы як пара плодныя ці няплодныя.

Калі ты прызнаеш, што жыццё дзіцяці больш важнае, то пры дапамозе гэтых метадаў зможаш падпарадкаваць



pixabay.com

задавальненне жыццю дзіцяці. Гэта значыць проста пачакаць. Калі плануеш дзіця – пачакаць, калі будзе максімальна плодны час, каб мудра і свядома паявіліся магчымасць зачацця. Калі хочаш адкласці зачацце або лічыш, што ў тваёй сямʼі не павінна быць больш дзяцей – выбіраеш для сексуальных адносін няплодны час.

І гэтае чаканне мае каласальную сілу. Дарэчы, яно гарантуе, што сужэнская блізкасць не страціць сваю прывабнасць да канца жыцця. Гэтае чаканне патрэбна чалавеку, каб кожная сустрэча заставалася свежай і прывабнай.

І наадварот, калі выбіраеш задавальненне як галоўную каштоўнасць, дзіця становіцца перашкодай. Ты засцерагаешся ад яго, пачынаеш выкарыстоўваць кантрацэпцыю, уваходзіш у дыскамфорт. Досвед многіх сужэнцаў паказвае, што гэта шлях у нікуды.

Рэальную чалавечую праблему не вырашыць таблеткамі ці кавалкам гумы! Кожная жанчына адчувае, што інтымная блізкасць можа прывесці да зачацця. Выкарыстанне кантрацэпцыі толькі даказвае гэты яе страх. Каб зразумець, чаму такое стаўленне да інтымнага жыцця настолькі дэструктыўнае, трэба спакойна абдумаць інтымную блізкасць як такую. Працягнем разважаць на гэтую тэму ў наступны раз.

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

# Што можна рабіць з асвечанай вадой?

grodnensis.by

*Паводле каталіцкай традыцыі, асвечаная вада належыць да сакраманталіяў. Чым з'яўляюцца сакраманталіі? Як кажа нам Катэхізіс Каталіцкага Касцёла, гэта прадметы або дзеянні, якія, дзякуючы малітве Касцёла, указваюць на духоўныя даброты і асвячаюць штодзённае жыццё веруючага чалавека, рыхтуючы яго да больш глыбокага прыняцця і перажывання канкрэтнага сакраманту.*

*Асвечаная вада, благаслаўлёная біскупам, прэзбітэрам або дыяканам, – традыцыя, якая існуе ў гісторыі хрысціянства з II стагоддзя. У Старым Запавеце святая вада мае ачышчальную моц, а ў Новым Запавеце – асвячальную, звязаную з хростам Езуса ў водах Іардана.*

*У Святы Пасхальны Трыдуум, а дакладней у Вялікую суботу, благаслаўляецца вада для хросту, і вернікі могуць узяць яе дадому і карыстацца ёю, робячы знак крыжа, змачыўшы ў ёй пальцы, а таксама спажываць яе на працягу дня, перад гэтым зрабіўшы знак крыжа.*

*Акрамя таго, вернік можа на працягу ўсяго года папрасіць святара благаславіць ваду для ўласнага карыстання дома. У нашых каталіцкіх святынях такая вада стаіць перад уваходам у касцёл у спецыяльных крапільніцах, каб, уваходзячы, кожны мог зрабіць знак крыжа, змачыўшы ў ёй пальцы. Гэта сімвал уласнага хросту, які мы атрымалі ад Бога.*

*Асвечаная вада выкарыстоўваецца для сакраманту хросту, благаслаўлення страў на велікодны стол і аплаткаў на вігілійны стол, благаслаўлення кадзіла і крэйды ў свята Абʼяўлення Пана, благаслаўлення пальмовых галінак, зёлак у свята Маці Божай Зельнай і грамнічных свечак у свята Маці Божай Грамнічнай, благаслаўлення абразоў, рэлігійных прадметаў, а таксама падчас шлюбу для благаслаўлення пярсцёнкаў. Яна выкарыстоўваецца падчас экзарцызмаў і благаслаўлення памяшканняў у доме або іншых месцах. Такім чынам, мы бачым, як шануецца святая вада ў нашым штодзённым рэлігійным жыцці.*

*Калі вада доўга стаіць, яна можа атрымаць непажаданы асадак або сапсавацца і мець непрыемны пах. Такую святую ваду трэба выліць у годнае месца – гэта можа быць агарод або вазон з кветкамі. Нельга выліваць яе ў ракавіну. Да кожнай благаслаўлёнай рэчы павінна быць павага.*

# “ЗАВЯРШЭННЕ” ХРОСТУ

працяг са с. 1

**Павел ці Пётр? Марыя ці Агата? Кандыдаты да сакраманту канфірмацыі ў пошуку прыдатнага “святога” імя. Хочацца, каб яно адпавядала і найлепшым чынам спадарожнічала ў духоўным жыцці. Навошта ўвогуле патрэбны гэты сакрамант і як выбраць “бежмаванае” імя, запыталі ў кс. Генадзя Лаўніковіча SCJ, вікарыя гродзенскай парафіі Божай Міласэрнасці (Вішнявец).**

Вольга Сяліцкая

***“Сакрамант канфірмацыі патрэбны хрысціяніну для ўмацавання сваёй веры. Ён дапамагае змагацца з рознымі спакусамі і пасткамі злога духа,*** – распавядае кс. Генадзь Лаўніковіч. – ***Хрысціянін, які прыняў сакрамант канфірмацыі, атрымлівае ад Святога Духа сем дароў. Але нельга адносіцца да гэтага з элементам магіі, нібы я прыняў дары Святога Духа, то няхай цяпер Ён усё за мяне робіць, а я нічога не буду. Святы Дух дае нам гэтыя сем «падарункаў» у запакаваным выглядзе. Каб іх распакаваць, патрэбна сэрца, адкрытае на дзеянне Святога Духа і Яго прапановы, а таксама поўнае ўвядзенне гэтых прапаноў (на 100%) у сваё жыццё”.***

Непасрэднай падрыхтоўкай маладых людзей да сакраманту Канфірмацыі займаюцца катэхеты пры парафіях. Падчас такой падрыхтоўкі, якая трывае мінімум год, моладзь паўтарае асноўныя праўды веры, набывае новыя веды пра Святое Пісанне, Касцёл і малітву, а пазней разбірае сутнасць самога сакраманту, да якога збіраецца прыступіць.

***“Вельмі вялікая адказнасць ляжыць таксама на саміх кандыдатах. Канфірмацыя не павінна стаць «урачыстым развітаннем з Касцёлам у прысутнасці біскупа», як гавораць некаторыя, але наадварот – пачаткам блізкага жыцця з Богам і Яго Касцёлам”.***

Адным са складаных момантаў, з якімі сутыкаюцца вернікі, з’яўляецца неабходнасць выбраць сабе другое імя. На што трэба звярнуць увагу?

Запыталі ў маладзёнаў, якія нядаўна прынялі сакрамант, як жа яны выбіралі сабе імя і чым пры гэтым кіраваліся.




З сямі сакрамантаў ёсць тры, якія можна прыняць толькі аднойчы. Адзін з іх – канфірмацыя

***Марыя (Алівія), 15 гадоў***

*Аднойчы, калі была на споведзі, ксёндз спытаўся ў мяне, ці прымала сакрамант канфірмацыі. Я якраз рыхтавалася і не ведала, якое імя выбраць. Ксёндз распавёў гісторыю пра св. Вераніку і пра імя Алівія. Вось і атрымалася, што выбрала другое імя. Цяпер часта ўспамінаю ў цяжкія моманты, што ў мяне ёсць святая заступніца, да якой магу памаліцца і папрасіць дапамогі.*

*Канфірмацыя – гэта адна са сцежак, якая вядзе мяне да Бога, напамін пра тое, што сяброўства з Ім не заканчваецца і гэта толькі малая частка. Упэўнена, што Святы Дух напаўняе мяне зараз у поўнай меры і заўсёды знаходзіцца побач.*

***Дзіяна (Ігнацыя), 14 гадоў***

*Мой тата, старэйшы брат, дзядуля (па таце) маюць імя Ігнат. Таксама тата хацеў мяне назваць Ігнацыяй, але мама сцвярджала, што няма такога жаночага імя. А калі тата знайшоў яго ў крыніцах, было позна: мяне ўжо назвалі іншым імем.*

*Калі прыйшоў час прыступаць да сакраманту канфірмацыі і выбіраць святога апекуна, я пачала чытаць пра розных Ігнацыяў. Больш за ўсё мне запаў у душу св. Ігнацый Лаёла. Страціўшы тое, што больш за ўсё любіў (магчымасць быць рыцарам), ён не адчаіўся, а пачаў новую справу, якой прысвяціў усё астатняе жыццё.*

*Сакрамант канфірмацыі лічу новым этапам у рэлігійным узрастанні. Святы апякун стаў для мяне на гэтым шляху прыкладам і стымулам.*

***Улад (Міхал), 16 гадоў***

*Імя Міхал абраў таму, што архангёл з гэтым імем з’яўляецца галоўным змагаром са злом. Яго часта малююць як пакарыцеля д’ябла.*

*Падчас хросту я таксама атрымаў другое імя Міхал. Часта асацыірую сябе з ім, бо калі даводзіцца сустракацца з нечым вельмі кепскім у жыцці, “даю бой”. Часта бясстрашна адкрыта выступаю супраць зла. Натхняюся святым заступнікам! Мне здаецца, што сакрамант канфірмацыі – гэта пераход у больш адказны перыяд жыцця.*

**ШТО НАКОНТ ВЫБАРУ ІМЯ ДУМАЕ СВЯТАР?**

***“Часцей за ўсё ці маладыя людзі, ці старэйшыя асобы выбіраюць імёны, звязаныя з пачаткам развіцця Касцёла: у гонар апосталаў, Маці Божай ці св. Юзафа, а таксама святых, якія праз сваю дзейнасць у Паўсюдным Касцёле пакінулі вялікі след,*** – адзначае кс. Генадзь. – ***Па-першае, іх культ моцна развіты ў Касцёле, па-другое, такім чынам выражаецца вялікая пашана да святых.***

***Імя трэба выбіраць гледзячы не на прыгажосць самога імя, але на прыгажосць жыцця святога. Вельмі добра будзе, калі знойдзем у біяграфіі адметныя рысы, якія прагнем развіваць у жыцці. І тут трэба сказаць, што мы не павінны стаць копіяй святога, якога выбралі, але, наследуючы канкрэтныя цноты, праз яго заступніцтва імкнуцца да ўласнай святасці, да якой Бог нас заклікае. Таму праз усё жыццё пасля канфірмацыі варта ладзіць асабістае набажэнства да заступніка ў Небе”.***

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

Кс. Юрый Марціновіч, святар рымска-каталіцкага абраду

***12 чэрвеня – каментарый да Евангелля на ўрачыстасць Найсвяцейшай Тройцы*** *(Ян 16, 12–15)*

### Таямніца Найсвяцейшай Тройцы

*Місія Езуса на зямлі скончылася разасланнем. З таго часу вучні абвяшчаюць Добрую Навіну “ўсім народам” і хрысцяць у імя Айца, і Сына, і Святога Духа. З апостальскіх часоў заклік да веры ў імя Найсвяцейшай Тройцы суправаджае паўсядзённае жыццё. Так мы пачынаем і заканчваем дзень, а на працягу дня – пасілкі, працу, падарожжы і важныя справы. У імя Айца, і Сына, і Духа мы былі ахрышчаны. У імя Найсвяцейшай Тройцы святар адпускае грахі ў сакраманце пакаяння. Такім жа чынам мы пачынаем і заканчваем св. Імшу і кожны псалом у Літургіі гадзін. У імя Найсвяцейшай Тройцы мы развітаемся з гэтым светам, каб увайсці ў жыццё вечнае ў Ёй.*

*Найсвяцейшая Тройца суправаджае нас кожны дзень і з’яўляецца візітнай карткай кожнага хрысціяніна. Яна побач з намі, бліжэй, чым мы самі да сябе, і ў той жа час з’яўляецца вялізнай Таямніцай.*

*Таямніцу Найсвяцейшай Тройцы можна зразумець толькі ў кантэксце любові. Бог любіць свайго Адзінароднага Сына вечнай, абсалютнай, бясконцай любоўю. Глыбіня любові, якая ёсць у Богу, мае асабістае вымярэнне; з’яўляецца невычэрпным Духам. Любоў патрабуе для свайго існавання іншага чалавека, таму што прадугледжвае ўзаемнасць.*

*Любоў хоча разлівацца далей, пранікаць ва ўсё. Божая любоў таксама хоча выцякаць на паверхню. Таму Бог стварае свет, стварае чалавека, запрашае яго да блізкага сяброўства з сабой. Сляды Божай любові мы знаходзім ва ўласным жыцці: у любові мужчыны і жанчыны ды ў плёне гэтай любові – у дзецях. Аднак гэта толькі цень, вельмі слабы вобраз безумоўнай, абсалютнай, бязмежнай любові Бога. Урэшце рэшт, “усе нашы крыніцы ў Ім” (параўн. Пс 87 (86), 7) і “ў Ім мы жывём, рухаемся і існуем” (Дз 17, 28).*

*Езус Хрыстус стаў чалавекам, каб наблізіць нас да таямніцы Найсвяцейшай Тройцы. Ён уводзіць нас у глыбіню любові. Уводзіць у таямніцу абмену, якая ёсць у Богу, і ў таямніцу давання, а таксама атрымання, у таямніцу ўдзялення сябе тым, хто навокал.*

*Таму стараймася пазнаваць ісціны, якія адкрывае нам Трыадзіны Бог.*

А. Андрэй Крот, святар грэка-каталіцкага абраду

***19 чэрвеня – каментарый да другога чытання на XII Звычайную нядзелю*** *(Гал 3, 26-29)*

### Юдэі, грэкі і беларускі народ

*Чытанне з XII Звычайнай нядзелі гаворыць нам пра тое, што Хрыстос яднае ўсіх людзей, незалежна ад полу, сацыяльнай ці нацыянальнай прыналежнасці. Апостал Павел піша да Галатаў: “Бо ўсе вы, хто ахрысціліся ў Хрыста, у Хрыста апрануліся. Няма ўжо ні юдэя, ні грэка; няма ні раба, ні свабоднага; няма ні мужчыны, ні жанчыны, бо ўсе вы адно ў Хрысце Ісусе” (Гал 3, 27–28).*

*У візантыйскай традыцыі ў другую нядзелю пасля Зыходу Святога Духа адзначаецца свята ўсіх святых той краіны, дзе знаходзіцца лакальная Царква. Напрыклад, Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква святкуе 19 чэрвеня свята Усіх святых беларускага народа.*

*Здаецца, тут мы бачым супярэчнасць паміж заходняй і ўсходняй традыцыямі, ды нават паміж усходняй традыцыяй і Словам Божым. Але супярэчнасць гэтая ўяўная. Падчас вельмі папулярнага ў беларускіх грэка-католікаў набажэнства – Малебна за беларускі народ – чытаецца фрагмент іншага паслання апостала Паўла, дзе ён кранальна апісвае сваю любоў да суайчыннікаў. Нягледзячы на тое, што габрэі не прынялі Хрыста, святому Паўлу баліць сэрца за землякоў: “Праўду кажу ў Хрысце, не маню, сведчыць мне сумленне маё ў Духу Святым, што ў сэрцы маім маю вялікі сум і боль няспынны. Я жадаў бы лепш сам быць адлучаным ад Хрыста за братоў маіх, родных целам, Ізраільцянаў, якім належыць усынаўленне, і хвала, і запаветы, і данне законаў, і выкананне службы Божай, і прырачэнні” (Рым 9, 1–4).*

*Дык якое ж сапраўднае стаўленне Каталіцкай Царквы да патрыятызму? Ці “няма ўжо ні юдэя, ні грэка”, ці “вялікі сум і боль няспынны” за братоў, родных целам? Адказ просты – адно не выключае другога. Мы, хрысціяне, павінны любіць сваю Бацькаўшчыну, але братамі і сёстрамі для нас з’яўляюцца не толькі нашы суайчыннікі, а кожны чалавек, за якога памёр Хрыстос. І, думаю, кожнаму з нас варта знайсці хвіліну, каб дадаць да сваіх малітваў і словы Мірнай літаніі з Літургіі св. Яна Залатавуснага: “За Богам сцеражоную краіну нашу Беларусь і ўвесь беларускі народ, за стойкасць у веры, мужнасць у выпрабаваннях і вернасць свайму народу ўсіх нас”.*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

### ЛЮБІМАМУ СЫНУ КСЯНДЗУ ВЯЧАСЛАВУ МАТУКЕВІЧУ

*з нагоды 15-ай гадавіны святарскага пасвячэння складаем букет сардэчных пажаданняў. Няхай кожны Твой дзень праходзіць у радасці, сілы і запал да абвяшчэння Божага слова ніколі не пакідаюць, а побач заўсёды будуць добрыя і зычлівыя людзі. Няхай Пан штодзённа адорвае Цябе сваімі шчодрымі ласкамі, а Найсвяцейшая Маці і святы заступнік нястомна апекуюцца.*

*Мама і тата*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ КАЛЕСНІКУ

*з нагоды 22-ой гадавіны святарскага пасвячэння складаем букет шчырых пажаданняў. Няхай добры Бог памножыць Вашу веру і благаславіць, Святы Дух шчодра адорыць мудрасцю, а Маці Божая ахіне няспыннай апекай і мацярынскай любоўю. Няхай міласэрны Бог узнагародзіць Вас моцным здароўем, сілай, цярплівасцю і запалам у шчырай і адданай службе Яму і людзям, а кожны дар, які атрымліваеце ад Пана, будзе моцнай падтрымкай на жыццёвым і святарскім шляху.*

*Літургічная служба алтара парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

### ПАВАЖАНЫМ КСЯНДЗАМ АРТУРУ МАЛАФЕЮ І ЯНУ КУЗЮКУ

*з нагоды чарговай гадавіны святарскага пасвячэння сардэчна жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, цярплівасці, мужнасці, добрых і спагадлівых вернікаў. Няхай Бог дадае Вам моцы, Святы Дух надзяляе мудрасцю і спакоем, Езус служыць прыкладам на святарскім шляху, а Маці Божая заўсёды аберагае.*

*Вернікі парафіі Гродна-Аўгустовак*

### ПАВАЖАНЫ КСЁНДЗ ПРОБАШЧ ЯЎГЕН УЧКУРОНІС!

*З нагоды 18-ай гадавіны святарскага пасвячэння прыміце нашы віншаванні і нізкі паклон падзякі. Няхай Пан Бог благаслаўляе Вас на плённую працу на карысць Яму і нашай парафіі, а душа квітнее штодзённа і напаўняецца прыгажосцю Божай прысутнасці ў Вашым жыцці. Жадаем супакою і глыбокага даверу Богу, моцнага здароўя, цярплівасці на святарскім шляху, поспехаў у рэалізацыі планаў і задум, падтрымкі Святога Духа, каб Вы яшчэ паўней маглі рэалізаваць святарскае пакліканне. Дзякуем за Вашы малітвы, клопат і пашану да нас.*

*З малітвай вернікі, Легіён Марыі, апостальства "Маргарытка", супольнасць Маці ў малітве і Колы Жывога Ружанца парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

### ПАВАЖАНАЙ СЯСТРЫ МАГДАЛІНЕ КУЛАЙ

*з нагоды дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем Божых ласкаў на жыццёвым шляху, супакою ў душы і сэрцы, Божай прысутнасці ў жыцці, даверу да Бога, моцнага здароўя. Няхай сэрца поўніцца радасцю і шчасцем, кожны новы дзень пачынаецца з усмешкі, а Ваша жыццё і шлях служэння будзе плённым і шчаслівым.*

*Вернікі і ўсе колы парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

### ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ ПРОБАШЧУ АНТОНІЮ ПАЖЭЦКАМУ

*з нагоды дня нараджэння і імянін жадаем моцнага здароўя, душэўнага спакою і Божага благаслаўлення. Няхай усё, што запланавана, здзяйсняецца з дапамогай Бога, Вашага заступніка св. Антонія і добрых людзей.*

*Парафіяне касцёла св. Францішка Асізскага ў Свіслачы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЗДІСЛАВУ ПІКУЛУ

*з нагоды дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў: мноства Божых ласкаў, сталай апекі Маці Божай Успамогі Хрысціян, заступніцтва св. Яна Боско ў кожную хвіліну жыцця і моцы Сятога Духа. Няхай Бог адорыць Вас добрым здароўем на доўгія гады жыцця, цярплівасцю, стойкасцю і душэўным супакоем. Няхай Ваша служэнне прыносіць шчодры плён, радасць і здавальненне.*

*З удзячнасцю парафіяне з Дзятлава*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ІГАРУ АНІСІМАВУ

*з нагоды імянін перасылаем сардэчныя віншаванні.*
*З нагоды Вашых імянінаў,*
*Ксёндз Ігар, хочам Вам жадаць,*
*Каб Вы у кожную хвіліну*
*Маглі Ісуса адчуваць.*
*Каб Вашы словы мы пачулі,*
*Праз іх каб вера ўзрастала,*
*Каб Бога ля сябе адчулі,*
*І моц Яго ва ўсіх трывала.*
*Няхай з Рук Божых Вам пальецца*
*Здароўе, мудрасць, дабрата!*
*Жадаем радасць чуць у сэрцы,*
*Прыняўшы Цела і Кроў Хрыста!*

*З павагай парафіяне касцёла Беззаганага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Слоніме*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ АНТОНІЮ КАЗЛОЎСКАМУ

*з нагоды імянін перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: здароўя, радасці, душэўнага супакою, добрых людзей побач. Няхай Пан Бог прытуліць Вас да свайго Найсвяцейшага Сэрца і адорыць благаслаўленнем ды ласкамі на доўгія гады, а Маці Божая атуліць сваёй апекай.*

*Вернікі вёскі Малінавая*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ІГАРУ АНІСІМАВУ

*з нагоды імянін перасылаем сардэчныя віншаванні. Няхай добры Бог узнагароджвае Вас моцным здароўем, стойкасцю і сілай, Маці Божая апекуецца і атуляе плашчом любові Беззаганнага Сэрца, а Святы Дух спасылае Вам свае дары, асвячае святарскі шлях і дапамагае годна выконваць душпастырскую паслугу. Дзякуем за Вашы малітвы, зычлівасць, лагодную ўсмешку, добрае сэрца і мудрыя павучанні. Дзякуем за тое, што Вы з намі.*

*Малітоўная група касцёла Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Слоніме*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЗДЗІСЛАВУ ПІКУЛУ

*з нагоды дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў і ўсіх дароў Святога Духа. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены цеплынёй, радасцю, дабрынёй, моцай, любоўю і надзеяй, вера толькі ўзмацняецца, а ўсё, што было запланавана, здзяйсняецца з дапамогай Бога і добрых людзей. Няхай міласэрны Бог асвячае дарогу Вашага жыцця, узмацняе розум і сэрца, каб Слова, якое выходзіць з Вашых вуснаў, стала агнём, святлом і моцай для нашай веры.*

*З малітвай, павагай і любоўю Касцёльны камітэт касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Дзятлаве*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРЭЛАТУ АНТОНІЮ ФІЛІПЧЫКУ

*з нагоды імянін і 40-ой гадавіны святарскага пасвячэння сардэчна жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою, радасці, шчодрага плёну ў святарскай паслузе, шмат Божых ласкаў і дароў Святога Духа. Няхай Ваш святы заступнік заўсёды будзе побач, а Маці Божая вядзе найпрыгажэйшай сцежкай сярод верных і добрых людзей.*

*Францысканскі ордэн свецкіх, Колы Жывога Ружанца, Апостальства дапамогі чысцовым душам і вернікі парафіі св. Вацлава ў Ваўкавыску*

### ШАНОЎНАЙ СЯСТРЫ АНТАНІНЕ

*з нагоды імянін жадаем усіх патрэбных ласкаў ад Пана і дароў Святога Духа. Няхай здароўе і энергія спадарожнічаюць Вам на працягу доўгіх гадоў жыцця, прыносячы задавальненне і радасць ад таго, чаго ўдалося дасягнуць.*

*Францысканскі ордэн свецкіх, Колы Жывога Ружанца і вернікі парафіі св. Вацлава ў Ваўкавыску*

### ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ АНТОНІЮ ПАЖЭЦКАМУ

*з нагоды дня нараджэння і імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай міласэрны Бог узнагародзіць Цябе моцным здароўем, сілай і нязгасным запалам у шчырай і адданай паслузе Яму і людзям. Жадаем душэўнага супакою, цішыні ў сэрцы, мноства прыгожых, спакойных і благаслаўлёных дзён.*

*Сям'я Пажэцкіх*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ РУСЛАНУ МАЗАНУ

*з нагоды 12-ай гадавіны святарскага пасвячэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў: шчодрых Божых ласкаў, апекі Маці Божай і святога заступніка, патрэбных дароў Святога Духа, радасці, душэўнага супакою, добразычлівых людзей побач і стойкасці на дарозе Хрыстовага святарства.*

*Цёця Галя і яе сям'я з Гудзевічаў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ КАНОНІКУ РЫШАРДУ ЯКУБЦУ

*з нагоды 35-ай гадавіны святарства складаем сардэчныя пажаданні: штодзённага благаслаўлення ад Езуса Хрыста, моцнага здароўя, шчодрых дароў і ласкаў Божых на кожны дзень. Няхай Маці Божая заўсёды апекуецца Вамі, атуляе святлом свайго сэрца, напаўняе радасцю, супакоем і любоўю.*

*Вернікі парафіі Маці Божай Тройчы Цудоўнай у Мастах*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ РАМАНУ ЯЛОЎЧЫКУ

*з нагоды дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні: поспехаў ва ўсім і апекі Святога Духа. Няхай Бог заўсёды накіроўвае Вас па дарогах святла, спакою і любові, а анёлы нястомна маюць у сваёй апецы. Мноства Божых ласкаў і доўгіх гадоў жыцця, пражытых у здароўі, радасці і супакоі!*

*З малітвай парафіяне касцёла св. Міхала Арханёла ў Гнезне*

### ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ КАЗІМІРУ ЕНДЖЭЙЧАКУ

*з нагоды 35-ай гадавіны святарскага пасвячэння ад усяго сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў. Няхай святарскі шлях будзе шчаслівы і благаслаўлёны, побач будуць зычлівыя людзі, здароўе спрыяе, а Святы Дух вядзе прыгожай дарогай да святасці.*

*Яна, Валерый і Вераніка*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

## АНОНСЫ

### У Мсцібаве адбудзецца Усебеларускі фестываль арганнай музыкі

**24 чэрвеня а 17-ай гадзіне** парафія св. Яна Хрысціцеля ў мястэчку Мсцібава сардэчна запрашае ўсіх жадаючых на Усебеларускі фестываль арганнай музыкі, прысвечаны 110-годдзю касцёла і адпусту з нагоды свята Нараджэння св. Яна Хрысціцеля.

***Праграма фестывалю:***
***17.00** – распачацце канцэрта; **17.40** – гістарычная лекцыя;*
***18.00** – урачыстая св. Імша; **19.30** – працяг канцэрта арганнай музыкі.*

## КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ




**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

У суботу 28 мая ў Клюшчанах на Астравеччыне адбылася св. Імша і паэтычная імпрэза ў памяць пра кс. Канстанціна Стаповіча – святара і паэта, вядомага як Казімір Сваяк.

Клюшчаны – невялікая вёсачка на самым беларуска-літоўскім памежжы. У тутэйшай парафіі нёс святарскае служэнне кс. Стаповіч, які нарадзіўся непадалёк, у суседніх Баранях. Сёлета ўжо ў 16-ты раз тут сабраўся "хаўрус сваякоў" – тых, для каго святар-паэт стаў вельмі блізкім, духоўна родным чалавекам.

Драўляная святыня, у якой ён стагоддзе таму абвяшчаў Божае слова на роднай мове, здзяйсняў эўхарыстычную ахвяру, хрысціў і спавядаў, згарэла 5 гадоў таму. Цяпер св. Імшы цэлебруюцца ў невялікай капліцы ў плябаніі.




**газета Віцебскай дыяцэзіі**

У сактуарыі Маці Божай Валадаркі Азёраў у Браславе 22 мая адбылося адкрыццё мотасезона. Па запрашэнні кс. Уладзіміра Шыдлоўскага SDS у санктуарый прыбылі каля 60-ці матацыклістаў.

На пачатку сустрэчы ў парафіяльным доме адбыўся музычны канцэрт гурта „Ex anima". У зале для гасцей быў прыгатаваны пачастунак.

Другім пунктам сустрэчы была супольная св. Імша, падчас якой прасілі Бога аб бяспечных падарожжах для матацыклістаў, а таксама аб Божай міласэрнасці і дары вечнага жыцця для тых з іх, хто загінуў.

Матацыклісты прыехалі на сустрэчу з розных куткоў Віцебскай вобласці. Гэта быў добры час для знаёмстваў, інтэграцыі, для далейшых добрых сустрэч, дзе прысутны Бог.




**беларуская рэдакцыя**

Дзяржава Ватыкан 19 мая 2022 года распачала продаж срэбраных медалёў, даход з якіх будзе цалкам прызначаны на папскія дабрачынныя справы для ўкраінскага народа. Тэма медаля коштам у 50 еўра, выпушчанага манетным дваром Ватыкана, – мір ва Украіне. Медаль праектавалі дзве аўтаркі – Арыета Росі і Даніэла Лонга. Кожная спраектавала адзін з бакоў.

Арыета Росі прадставіла выяву маці з двума дзецьмі, якія ўцякаюць з адным чамаданам і плюшавай цацкай са знішчанага бамбардзіроўкамі горада. Лонга, у сваю чаргу, прадставіла галубку з аліўнай галінкай у дзюбе – сімвал міру, і герб папы Францішка. На гэтым баку медаля змешчаны таксама фрагмент малітвы Святога Айца за Украіну.




**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

У парафіі Святога Духа ў Гродне (Альшанка) 28 мая св. Камунію ўпершыню прынялі тры групы маленькіх вернікаў, агульны лік якіх склаў каля 200 чалавек. Па колькасці дзяцей, якія прыступілі да Першай Камуніі, гэта рэкорд сярод каталіцкіх парафій ва ўсёй Беларусі.

На кожнай св. Імшы пробашч парафіі кс. канонік Павел Салабуда звяртаўся да бацькоў, заклікаючы іх рабіць усё для духоўнага выхавання сваіх дзяцей: "Свята Першай святой Камуніі – той момант, калі Бог, прысутнічаючы ў жыцці кожнага, умацоўвае нас у веры".

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: slowo.grodnensis@gmail.com**; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ААТ "Брэсцкая друкарня",** 224013 Брэст, прасп. Машэрава, 75; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.